# Ніва

## БЕЛАРУСКІ ТЫДНЁВІК

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 29 (855) ГОД XVII БЕЛАСТОК 16 ЛІПЕНЯ 1972 г. ЦАНА 60 гр.

З нагоды 90-ай гадавіны з дня нараджэння Янкі Купалы друкуем цыкл артыкулаў пра вялікага беларускага паэта. Пачаў гэты цыкл вядомы беларускі паэт Ніл Гілевіч. Сёння слова мае Уладзімір Юрэвіч, вядомы беларускі крытык і дырэктар Літаратурнага музея Янкі Купалы. Яго артыкул «З народу — для народу» будзе друкавацца ў чатырох нумарах.

Народны... Гэтага найбольш ганаровага звання ў Беларусі ўдастойваюць таго, чыя муза бязрэшты служыць народу. Янку Купалу было прысуджана гэтае званне народнага паэта Беларусі першаму — у год дваццацігоддзя яго творчай дзейнасці.

Купала быў сапраўды народным мастаком, сынам свайго веку, нашага веку.




1)



*Дом у вёсцы Вязынка, дзе нарадзіўся Янка Купала.*

Публічна заявіў ён аб сабе ў год першай рускай рэвалюцыі, заявіў прафесіянальна спелым вершам «Мужык». На мове арыгінала гэты верш быў апублікаваны 15 мая 1905 года ў рускай газеце «Северо-западный край», якая выдавалася ў Мінску. Апублікаваны быў на першай старонцы, побач з апавяданнем Льва Талстога. Факт знамянальны: прызнаны ў той час ва ўсім свеце рускі мастак нібы браў сабе ў суседзі нікому невядомага маладога паэта, песняра абяздоленых беларусаў.

Верш «Мужык» — паэтычны маналог вечна прыгнечанага, аднак гордага селяніна, які заяўляе ва ўвесь голас аб сваёй чалавечай годнасці. І хаця гэты верш з'яўляецца пачаткам творчага шляху Купалы, высокі узровень яго выканання не выклікае сумнення ў тым, што аўтар меў ужо значныя паэтычныя набыткі. У «Мужыку» выразна відаць зародкі, з якіх пазней, быццам колас з зерoccasion, вырасла магутная купалаўская паэзія, паэзія працы і змагання.

І да Купалы былі ў беларускай літаратуры песняры гора народнага, і да Купалы падаваў свой голас занявolены беларус. Аднак быў гэта голас нясмелы, прыглушаны — альбо занадта сентыментальны, альбо адкрыта павучальны. Купала ідзе далей. Заслона, за якой — народнае жыццё, ён рассоўвае шырэй, чым яго папярэднікі, выстаўляючы на паказ свет сацыяльнай несправядлівасці. Паэт не шкадуе сябе, адчуваючы раны народныя, як свае, і таму так шмат болю ў яго радках, такія палымяныя яго вершы.

Выстаўляючы на трыбуну ўсеагульнага агляду свайго мужыка, Янка Купала выконваў загад часу — паказаць тыя магутныя сілы, якія крыліся ў глыбінных нетрах беларускай вёскі, задыхаючайся ў дзікім невуцтве і адсталасці Купалаўскія вершы адразу сталі шырока вядомымі ў колах дэмакратычнай беларускай інтэлігенцыі. Яны даходзілі і да селяніна, мужыка, як заклік абудзіцца ад адвечнага сну і «за долю сваю ваяваць, ваяваць!»

Адкуль такая рашучасць, палымяная адданасць? Ці была яна прынесена тагачаснымі надзеямі — палітычнымі выступленнямі працоўных мас? Несумненна. Але нельга абыходзіць і тую акалічнасць, што з малых год у душы Янкі Купалы пасялілася зерне нязгоды з рэчаіснасцю, якое бударажыла розум паэта, трывожыла яго душу.

Дзяцінства не песціла маленькага Янку. Ён нарадзіўся 7 ліпеня 1882 года, непадалёку ад Мінска, у фальварку Вязынка, які належаў Замбжыцкаму. Усё тут было памешчыцкае. Сям'я маладых Луцэвічаў — Бянігны і Дамініка арандавала напалавіну зямлю і мела толькі куток у хаце без падлогі і пад саламянай страхой. Напярэдадні Івана Купалы ў гэтай хаце і паявіўся на свет першынец, якога назвалі паводле свята Янкам, Ясем. Пазней, як мяркуюць, гэта і вызначыла выбар літаратурнага імя — Янка Купала.

Сістэматычна хадзіць у школу Янку не давялося. Бацька быў наравісты, гордага характару і задоўга на адным месцы ў арандатарах не заседжваўся. Матка выхоўвала ў хлопчыку гуманныя адносіны да людзей, бацька вучыў быць гордым, гатовым пастаяць за сябе. На панскім полі, на вінакурных заводах, куды малады Купала пасля смерці бацькі вымушаны быў наймацца рабочым, пазнаваў ён жыццё. А з крыніц народных чэрпаў захаваныя ў песнях, казках, легендах мілыя сэрцу вобразы бацькоўскага краю. І яшчэ былі кнігі, да якіх, нягледзячы на цяжкую долю, прывучыўся Янка даволі рана. Чытаў шмат, чытаў без разбору. Кнігі разбудзілі фантазію, але «ў душы маёй, — піша Купала пазней у аўтабіяграфіі, — быў заўсёды нейкі адскі разлад. Ніяк не мог я прымірыць навакольнае рэальнае жыццё са светам думак і ўражанняў, якія пачэрпнуў з кніг».

*Уладзімір Юрэвіч*

## БГКТ хроніка

■ 27 чэрвеня адбылося пасяджэнне Прэзідыума Галоўнага праўлення з удзелам членаў Прэзідыума гарадскога аддзела БГКТ, штатных працаўнікоў ГП і некаторых актывістаў. Першым пунктам парадку дня была ацэнка працы гарадскога аддзела БГКТ у Беластоку. На гэтую тэму сакратар аддзела Зося Стаськевіч прачытала абшырную інфармацыю. Папоўніла яе дыскусія, якая выявіла добрыя бакі працы аддзела, яе цяжкасці і недахопы. Прэзідыум ГП станоўча ацаніў дзейнасць аддзела і выказаў пажаданне, каб праўленне аддзела ўдзяліла яшчэ больш увагі працы з моладдзю.

Затым Прэзідыум ГП даў ацэнку праведзеных аддзеламі аглядаў беларускай песні і тэатральных калектываў з беларускім рэпертуарам. У гэтым напрамку працы найбольшыя дасягненні меў беластоцкі павятовы аддзел, а найменшыя гайнаўскі аддзел. Аддзелы сакольскі, дуброўскі, варшаўскі і гданьскі зусім не прымалі ўдзелу ў гэтых аглядах.

Конкурс на беларускую песню сярод школьнай моладзі, арганізаваны супольна з аддзеламі асветы і кураторыяй асветы, карыстаўся вялікай папулярнасцю. Недахопам яго быў бедны песенны рэпертуар. Вось таму Прэзідыум ГП пастанавіў звярнуцца да асветных улад адносна выдання беларускага песенніка.

Разважалася таксама справа арганізавання супольна з асветнымі ўладамі аглядаў школьных драматычных калектываў з беларускім рэпертуарам.

Прэзідыум ГП на гэтым пасяджэнні шмат часу прысвяціў справам Беларускага этнаграфічнага музея ў Белавежы.

■ Беларускі этнаграфічны музей у Белавежы ў маі і чэрвені быў адкрыты толькі па тры дні ў тыдні. Наведала яго за два месяцы каля 3,5 тысяч турыстаў.

■ 24 чэрвеня закончыўся навучальны год у пачатковых школах. Ва ўрачыстасці заканчэння школьнага года ў Войшках (Бельскі павет) прымаў удзел сакратар ГП БГКТ Янка Зенюк, які выступіў там з прамовай да прысутных.

■ 2 ліпеня адбыўся ў Рыбаках (Беластоцкі павет) беларускі фэстын. (мх)



## Песня вяртаецца ў народ

Уладзімір Назарка прыехаў з вёскі Ціванюкі разам са сваёй старой гармошкай і выступіў на трэцім аглядзе беларускай песні ў Беластоку. Згодна з правіламі агляду заспяваў дзве беларускія песні, старынныя песні сваёй ваколіцы.

Камісія прысудзіла яму ўзнагароду «Нівы». Узнагароду гэтую рэдакцыя дае за добрае выкананне фальклорных песень.

Такім чынам народны пясняр з ваколіц Юшкавага Груда ў Беластоцкім павеце Уладзімір Назарка выклікаў наша зацікаўленне да сваёй асобы і працы. Каб даведацца больш пра яго, давялося паехаць у вёску Ціванюкі.

Раскінулася яна прыгожа на ўзгорках, паўтара кіламетра за Юшкавым Грудам простай дарогай праз поле. Але знайсці вёску машынай было нялёгка. Дарогі палявыя бягуць тут сярод заго-

Працяг на стар. 4

# Падзеі ◊ Здарэнні ◊ Факты ◊ Каментарыі ◊ Весткі



## СВЕТ

### В'ЕТНАМ ЗМАГАЕЦЦА

Вайна ў В'етнаме працягваецца. Амерыканская авіяцыя зноў бамбіла сталіцу Дэмакратычнай Рэспублікі В'етнам Ханой. Паветраная абарона рэспублікі збіла 4 амерыканскія самалёты. Агульны лік збітых на тэрыторыі ДРВ самалётаў складае цяпер 3731 штук.

### СІРЫЙСКІ ПРЭЗІДЭНТ З ВІЗІТАМ У СССР

У СССР пабываў з візітам генеральны сакратар Сацыялістычнай партыі Арабскага Адраджэння (БААС) прэзідэнт Сірыі Хафез Асад. У камюніке пасля візіту абодва бакі выказаліся на тэму небяспечнай сітуацыі на Блізкім Усходзе. Мір на гэтых землях можа быць вернуты толькі пасля таго, як Ізраіль вывядзе свае войскі з акупаваных арабскіх тэрыторый. Камюніке заяўляе аб прадаўжэнні вайсковага супрацоўніцтва паміж абедзвюма краінамі.

Х. Асад запрасіў Л. Брэжнева, Н. Падгорнага і А. Касыгіна наведаць Сірыю. Запрашэнне прынята.

### НОВЫ ЎРАД ФРАНЦЫІ

Францыя мае новы ўрад з прэм'ерам Месмерам на чале. Дагэтуляшні прэм'ер Шабан-Дальмас уступіў. Паводле каментатараў прычынай урадавых змен у Францыі з'яўляюцца ўнутраныя справы. Новы прэм'ер, як і ранейшы, з'яўляецца галістам.

### ЗМЕНЫ Ў БОН

З бонскага ўраду вышаў міністр гаспадаркі і фінансаў К. Шылер. На яго месца прыйшоў дагэтуляшні міністр абароны Г. Шміт. Справа персанальных змен у Бон выклікала многа шуму. Канцлер Брандт заявіў аднак, што яго палітыка не зменіцца.

### АНДРЭЙ ГРАМЫКА Ў ГАЛАНДЫІ

А. Грамыка — міністр замежных спраў СССР быў з чатырохдзённым візітам у Галандыі. Падкрэсліваецца ўзаемнае зразуменне ў важнейшых еўрапейскіх справах. Візіт гэты ацэньваецца як важны крок на дарозе аслаблення напружання ў Еўропе.

### СУСТРЭЧА ПАМІЖ ІНДЫЯЙ І ПАКІСТАНАМ

Сустрэча на найвышэйшым узроўні паміж Індыяй і Пакістанам закончылася пазітыўна. Між іншым, пастаноўлена вывесці войскі з занятых раней тэрыторый.

### ГАДАВІК ААН

Арганізацыя Аб'яднаных Нацый апублікавала новы статыстычны гадавік за 1971 год. Падае ён, што ў 1971 годзе насельніцтва зямлі ўзрасло на 72 млн. На бягучы год прадбачыцца ўзрост на 73 млн. На канец 1972 года будзе нас на зямлі 3,7 мільярда. Пры такім, як зараз, тэмпе ўзросту насельніцтва зямлі (2 працэнты ў год) у 2000 годзе будзе жыць на зямлі 7,4 мільярда асоб.

Найбольш жыхароў мае Азія, потым Еўропа, Афрыка, Паўночная Амерыка, Акіянія і Паўднёвая Амерыка.

Найменш нованароджаных дзяцей памірае ў Швецыі. Найбольш — у некаторых краінах Афрыкі і Азіі. (вл)

## БССР

### ЮБІЛЕЙ НАРОДНАГА ПЕСНЯРА

7 ліпеня грамадскасць Беларусі шматлікімі мерапрыемствамі адзначыла 90-ую гадавіну з дня нараджэння народнага паэта Беларусі Янкі Купалы.

Юбілею паэта быў прысвечаны ўрачысты сход, які адбыўся ў Дзяржаўным акадэмічным Вялікім тэатры оперы і балету БССР. У прэзідыуме былі кіраўнікі партыі і ўрада на чале з I сакратаром ЦК КПБ П. Машэравым, кіраўнікі і члены дэлегацый пісьменнікаў і грамадскасці Масквы, Ленінграда, усіх саюзных рэспублік, народныя паэты і пісьменнікі Беларусі, выдатныя дзеячы культуры, навукі і мастацтва.

Да гэтага юбілею ўсесаюзная фірма грампласцінак «Мелодыя» падрыхтавала двухбаковую пласцінку «Гігант», якая прыносіць лепшыя творы Янкі Купалы. Пласцінка пачынаецца запісамі голасу паэта, зробленымі ў 1934 і 1936 гадах. Аўтар чытае паэтычнае прывітанне першаму ўсесаюзнаму з'езду пісьменнікаў і верш «Песня будаўніцтву». Затым гэтая ж купалаўская грампласцінка ўвекавечвае паэму «Курган» у выкананні Б. Платонава і прыносіць некалькі песняў на словы паэта, між іншым «І вецер, і сокал, і я», «Закацілася сонца», «Яр і каліна», «Я калгасніца», «Добры дзень, Масква».

### МЕМАРЫЯЛЬНЫ КОМПЛЕКС

У Мінску, дзе зыходзяцца вуліцы Янкі Купалы і Ленінскі Праспект, устаноўлен помнік Янку Купалу. Сямiметровая бронзавая фігура песняра стаіць на гранітным п'едэстале, што сімвалізуе пласт роднай зямлі, якую паэт натхнёна апяваў да канца сваіх дзён. Ля падножжа, побач з «Папараць-кветкай», б'е крыніца і, разам з белымі бярозамі і каменнямі-валунамі, напамінае дарагія сэрцу паэта родныя мясціны. Памятны комплекс дапаўняе скульптурная кампазіцыя «Купальская ноч», у якой дзве дзяўчыны, паводле народнага звычаю, кідаюць у ваду вянкі з палявых кветак. Цэлае наваколле перад гэтым помнікам таксама загаспадарана купалаўскімі і народнымі беларускімі матывамі.

### НАД ТВОРАМІ КУПАЛЫ

У чэрвеньскіх грамдска-літаратурных беларускіх журналах знаходзім шмат крытычнага матэрыялу, прысвечанага купалаўскай тэме.

«Полымя» друкуе заўвагі Ц. Ліякумовіча «Над купалаўскім радком» аб перакладах твораў паэта на рускую мову. а Юрась Свірка на старонках гэтага ж часопіса аналізуе пераклады твораў Някрасава, якія выйшлі з-пад пяра Купалы.

«Маладосць» змяшчае артыкул Ул. Юрэвіча «Даследуюцца рукапісы Купалы». Гэта рэцэнзія на кніжку Р. І. Гульмана «Тэксталогія твораў Янкі Купалы», якая выйшла ў Мінску ў 1971 годзе. Там жа Ж. Дапсюнас і В. Дэконская расказваюць пра пецярбургскі перыяд у жыцці Янкі Купалы, пра асяроддзе, у якім ён там знаходзіўся.

На старонках журнала «Нёман» знаходзім артыкул В. Казберука, які ацэньвае змест кніжкі М. Р. Яраша «Янка Купала і беларуская паэзія». Між іншым, у гэтай публікацыі аўтар разглядае сувязі Янкі Купалы з творчасцю польскага пісьменніка Станіслава Пшыбышэўскага, які быў асновапаложнікам эстэтычнай плыні ў польскай літаратуры, што выяўлялася ў лозунгу «Мастацтва для мастацтва». (вр)

## ПОЛЬШЧА

### ПАСЯДЖЭННЕ ПАЛІТБЮРО

4 ліпеня адбылося пасяджэнне Палітбюро ЦК ПАРП, на якім быў абмеркаваны праект праграмы павелічэння сельскагаспадарчай прадукцыі ў гадах 1973—1975. У праграме прадбачваецца перш за ўсё паляпшэнне гаспадаркі зямельнымі ўгоддзямі і выкарыстанне прадукцыйных рэзерваў у паасобных гаспадарках.

### ПАСЯДЖЭННЕ СЕЙМА ПНР

5 і 6 ліпеня адбывалася V пленарнае пасяджэнне Сейма ПНР, на якім быў абмеркаваны праект перспектывічнай праграмы будовы жылых кватэр, былі прыняты новыя законы адносна загаспадарвання вольных зямельных плошчаў у гарадах і справаздача ўрада аб выкананні гаспадарчага плана і бюджэта дзяржавы за перыяд ад 1 студзеня да 31 снежня 1971 года.

### ВІЗІТЫ Э. ГЕРКА І П. ЯРАШЭВІЧА

I сакратар ЦК ПАРП Э. Герэк і старшыня Рады Міністраў П. Ярашэвіч наведалі Шчэцінскую сточню і прадпрыемства «Дана». Цікавіліся яны сацыяльна-бытавымі праблемамі і асабістымі дасягненнямі рабочых гэтых прадпрыемстваў.

*

8 ліпеня I сакратар ЦК ПАРП Э. Герэк наведаў будову фабрыкі самаходаў у Бельску-Бялай і Тыхах. I сакратар ЦК цікавіўся ўмовамі працы будаўнічых калектываў і магчымасцямі, дзякуючы якім можна было б скараціць цыкл пабудовы фабрыкі і як найхутчэй распачаць прадукцыю новых самаходаў.

### АГУЛЬНАДЗЯРЖАЎНАЯ НАРАДА

3 ліпеня ў Варшаве адбылася нарада гаспадарчага актыву, на якой была абмеркавана праграма развіцця і ўдасканальвання паслуг для людзей да 1980 года. Нараду вёў старшыня Рады Міністраў П. Ярашэвіч.

### НАРАДА ПАРТЫЙНАГА АКТЫВУ Ў ОЛЬШТЫНЕ

3 ліпеня адбылася нарада партыйнага актыву ў Ольштыне, якая прысвячалася абмеркаванню праграмы грамадска-гаспадарчага развіцця Вармii і Мазураў. У дыскусіі былі адзначаны існуючыя рэзервы гэтага рэгіёна ў сельскай гаспадарцы і ў турыстыцы. У нарадзе прымаў удзел I сакратар ЦК ПАРП Э. Герэк.

### ВІЗІТ К. ВАЛЬДГАЙМА

5 ліпеня наведаў Польшчу з чатырохдзённым афіцыяльным візітам генеральны сакратар ААН др Курт Вальдгайм. Правёў ён сустрэчу з міністрам замежных спраў С. Альшоўскім, а таксама з членамі Палітбюро ЦК ПАРП. Візіт К. Вальдгайма ў Польшчы з'яўляецца яўным доказам канструкцыйнага супрацоўніцтва Польшчы з новым генеральным сакратаром ААН.

### ЗЛЁТ МОЛАДЗІ

19 ліпеня адбудзецца ў Лодзі злёт маладых перадавікоў працы і навукі. Зараз ідзе падрыхтоўка да гэтага агульнадзяржаўнага мерапрыемства. Для ўдзельнікаў пастаўлена больш 600 палатак. Увесь гэты маладзёжны гарадок пабудавалі салдаты. (ця)

## ВАЯВОДСТВА

### ЗАГІНУЎ ТАВ. ЯН СТОМПАР

Экзекутыва Ваяводскага камітэта партыі з глыбокім сумам паведаміла аб трагічнай смерці сакратара ВК партыі па справах сельскай гаспадаркі тав. Яна Стомпара.

Тав. Ян Стомпар трагічна загінуў 3 ліпеня ў час пабыўкі ў Манголіі. Пахаваны 10 ліпеня ў Варшаве на вайсковых могілках на Павонзках.

У асобе Яна Стомпара наша ваяводства, наша партыйная арганізацыя страціла адданага, заслужанага дзеяча, добрага арганізатара і вельмі добрага, сардэчнага чалавека.

### ПАМЁР ТАВ. Д. ГОСЦІК

У час выконвання сваіх службовых абавязкаў раптоўна 5 ліпеня памёр намеснік кіраўніка арганізацыйнага аддзела ВК ПАРП тав. Дзмітр Госцік. Тав. Д. Госцік быў адным з тых, што аддана працавалі на карысць нашага ваяводства, для яго няспыннага развіцця. Пахаваны на камунальных могілках у Беластоку.

### ЗАКЛІК ДА МОЛАДЗІ

Пачалося жніво. Першыя снапы жыта паявіліся на палях у паўднёвай частцы нашага ваяводства — у Сямяціцкім павеце. Сёлета жніво будзе нялёгкім. Значная частка збожжа палягла ад моцных ліўняў. Цяжка будзе ўсюды ўвайсці машынам. Кожная пара рук патрэбна ў гэтую гарачую пару.

Таму Ваяводскі камітэт па супрацоўніцтву маладзёжных арганізацый звярнуўся з заклікам да ўсіх членаў ЗМС, ЗМВ, ЗГП, ЗСП і КМВ, да ўсёй моладзі, якая прабывае на вёсцы, дапамагчы збіраць ураджай. У закліку гаворыцца аб дапамозе адзінокім людзям, аб арганізаванні апекі над дзяцьмі, аб дапамозе ПГР-ам, спулдзельням і сельгасгурткам. І ў сёлетняй акцыі, як і ў мінулыя гады, узняты лозунг «Кожны колас на вагу золата».

### ШЛЯХАМ БАРАЦЬБЫ

8 і 9 ліпеня па ініцыятыве аддзела ПТТК пры фабрыцы імя Сяржана адбыўся традыцыйны, X ужо матацыклетна-аўтамабільны крос «Шляхам барацьбы тэкстыльшчыкаў Беласточчыны». Сёлета гэта мерапрыемства адбывалася перш за ўсё з думкай аб адзначэнні 30-годдзя ППР. Траса кросу праходзіла з Беластока праз Заблудаў, Міхалова, Жэдню, Крулёвы Мост і зноў вяла ў Беласток. Удзельнікі кросу паклалі вянкі і букеты кветак ля памятных табліц на вул. Варшаўскай, у Грабаўцы і ў Міхалове, на месцах, дзе загінулі барацьбіты за волю ў час гітлераўскага нашэсця. У кросе ўдзельнічала больш 200 тэкстыльшчыкаў.

### ПЕРШЫЯ ТЫСЯЧЫ

Аўгустоўскае сілікатнае прадпрыемства дало ўжо першую цэглу. Ліпеньскі план прадугледжвае 2300 тыс. штук, поўная магутнасць прадпрыемства — 52 млн. штук цэглы ў год.

### I МЕСЦА

Беластоцкае ваяводскае прадпрыемства супрацьпажарнага абсталявання ўжо другі раз запар заняло першае месца ў краіне сярод прадпрыемстваў гэтага тыпу. Беластоцкае прадпрыемства, апрача супрацьпажарнага абсталявання, прадукуе таксама грамаадводы і часткі для мотапомп. (яч)




NIEDZIELA 16.VII.

8.30 Program dnia. 8.35 „Przypominamy, radzimy". 8.45 „Alarm przeciwpożarowy trwa". 9.00 „Stawka większa niż życie" — film TVP. 9.50 „Australia" cz. II („W cztery świata strony"). 10.25 „Przygoda z piosenką" — film fab. pol. 12.00 Pieśni St. Moniuszki śpiewa Chór Chłopięcy i Męski pod dyr. St. Stuligrosza. 12.45 „Po to, aby ocalić" — film ang. („Swiat, który nie może zginąć"). 13.10 Dzienik TV. 13.30 „Przemiany". 14.00 Dla dzieci: J. Wilkowski — „Tapir" („Ula i świat"). 14.20 „Uśnij mi uśnij, mój mały syneczku" („Z teki folklorystycznej Adolfa Dygacza"). 15.05 Estrada Literacka: „Obmyślam świat" („Monografie poetyckie") — liryka Wiesławy Szymborskiej. 15.50 „Polonia na świecie". 16.20 „W starym kinie" — „Sally z cyrkowej areny" — film arch. USA. 18.45 „Wieczór bez gwiazdy" — Irena Wiśniewska i Andrzej Lipski. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik TV. 20.05 „Ostatni lot Albatrosa" — film fab. radz. odc. I. 21.15 PKF. 21.25 „Estradowe spotkania" — program rozr. 22.15 Magazyn sportowy.

PONIEDZIAŁEK 17.VII.

16.40 Program dnia. 16.45 Dziennik TV. 17.10 „Echo stadionu". 17.35 „Fotoreporter wojenny" — film dok. pol. 17.55 „Eureka". 18.35 „Drogami współczesności" — rep. film. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik TV. 20.05 Letni Przegląd Teatru TV: T. Wilder — „Nasze miasto". Reż. — J. Gruza. 21.55 „W 30 minut dookoła świata" — mag. spraw międzyn. 22.25 Chopin i Rachmaninow w interpretacji pianisty Edwarda Auera (USA). 22.50 Dziennik TV.

WTOREK 18.VII.

10.00 „Cudotwórczyni" — film fab. USA. 11.40 Przerwa. 16.40 Program dnia. 16.45 Dziennik TV. 16.55 „Oferty". 17.15 „W sprawie opinii". 17.45 Telewizyjny Ekran Młodych. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik TV. Kronika Zlotu Młodzieży. 20.10 Kino Interesujących Filmów: „Cudotwórczyni" — film fab. USA. 21.50 Teatr na trasie" — rep. film. 22.20 Dziennik TV.

ŚRODA 19.VII.

8.15 Matematyka w szkole: „Środki graficzne" cz. I. 8.50 Matematyka w szkole: „Środki graficzne" cz. II. 9.20 Przerwa. 10.00 „Kobieta w bieli" — film franc. odc. I. 11.00 Przerwa 16.40 Program dnia. 16.45 Dziennik TV. 16.55 „Teleferie". 18.20 TV Kurier Warszawski. 18.40 „Drogami współczesności" — rep. film. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik TV. Kronika Zlotu Młodzieży. 20.10 „Kobieta w bieli" — film franc. odc. I. 21.00 PKF. 21.10 „Świat i Polska". 21.40 „Capriccio" — film muzyczny. 22.00 Dziennik TV. Wiadomości sportowe.

CZWARTEK 20.VII.

8.15 Matematyka w szkole: „Środki graficzne" cz. III. 8.50 Matematyka w szkole: „Środki graficzne" cz. IV. 9.20 Przerwa. 16.40 Program dnia. 16.45 Dziennik TV. 16.55 Magazyn ITP. 17.10 „Bieg po zdrowie". 17.30 „Sylwetki X Muzy" — Wiesława Mazurkiewicz. 18.00 „Poligon". 18.30 TV Kurier Lubelski. 18.50 „Sześć lat po rozruchu" — rep. film. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik TV. Kronika Zlotu Młodzieży. 20.05 „Przypominamy, radzimy". 20.10 „Kto opłakuje doktora" — film fab. ang. 21.00 „Perspektywy techniki". 21.30 „Sztuka kochania także jest sztuką" (Wieczorowy Uniwersytet dla Starszych Panów"). 22.05 Dziennik TV. Wiadomości sportowe.

PIĄTEK 21.VII.

10.00 „Wesele Boryny" — film seryjny TVP („Chłopi"). 11.00 Przerwa. 16.40 Program dnia. 16.45 Dziennik TV. 16.55 „Teleferie". 17.50 TV Kurier Mazowiecki. 18.10 „Kraj". 18.55 „Lipcowy polonez" — transmisja uroczystego koncertu z Sali Kongresowej PKiN w Warszawie z okazji rocznicy Manifestu PKWN. 20.30 Dziennik TV. Kronika Zlotu Młodzieży. 21.00 „Wesele Boryny" — film seryjny TVP („Chłopi"). 22.10 Dziennik TV. Wiadomości sportowe. 22.35 „Międzynarodowy coctail".

SOBOTA 22.VII.

8.55 Program dnia. 9.00 „Ostatnia szansa" — film TVP („Stawka większa niż życie"). 9.55 Zlot młodzieży Polskiej w Łodzi. Spotkanie z Kierownictwem Partii i Rządu. 12.30 Dziennik TV. 13.00 VI Ogólnopolski Festiwal Folklorystyczny w Płocku. „Z pieśnią i tańcem na Wiślanej skarpie". 14.00 Dla dzieci: J. Karnowski — „Kaszubi pod Wiedniem". 15.00 „Pod pomnikiem Chopina" — recital chopinowski w wyk. L. Grychtołówny. 15.30 „Kuźnia" — rep. film. 16.00 „Ogłoszenie matrymonialne" — film TVP (komedia). 17.00 Zlot Młodzieży Polskiej w Łodzi. Uroczystość otwarcia VI Ogólnopolskich Igrzysk Młodzieży Szkolnej oraz sprawozdanie z międzynarodowego meczu piłki nożnej ŁKS — Penarel Montevideo (Łódź). 19.20 Dobranoc. 19.30 Monitor. 20.15. „Kwiaty i piosenki dla Lubelskiej Ziemi" („Z wizytą u Was"). 21.45 Dziennik TV. Wiadomości sportowe. Kronika Igrzysk Młodzieży Szkolnej. 22.20 „Album Polski" — film fab. pol.

 

# СВЯТА МАЛАДОСЦІ

ЗМС-оўскае Свята маладосці становіцца ўжо традыцыяй. Апошнім часам святкавалі яго і ў Арэшкаве. Тутэйшая моладзь вельмі актыўная і вядомая сваімі грамадскімі чынамі.



*Прэзідыум Свята маладосці. Урачыстасць адкрывае старшыня мясцовай ГРН Юры Назарук.*



*Танцуюць самадзейнікі з Кляшчэляў.*



*Памятныя дыпломы за дапамогу ў ахове мяжы ўручае членам ЗМВ прадстаўнік беластоцкай часці ВОП.*

Першая частка арэшкаўскага Свята маладосці мела характар мітынгу. Адзначалася 27-ая гадавіна ВОП. Свята маладосці адкрыў старшыня мясцовай ГРН Юры Назарук. З дакладам выступіў старшыня грамадскага праўлення ЗМВ Міхась Малмышка. Затым сакратар павятовага праўлення ЗМВ Сапяжынскі падвёў вынікі сёлетняй працавітай «Вясны чынаў». Чыны склалі суму 375 тысяч злотых.

На заканчэнне афіцыйнай часткі былі прадстаўлены перадавікі чыну: Алякеей Назарук з Вітава, Аляксандр Бошка з Сухавольцаў, Зіна Анапрыюк з Дубічаў Царкоўных і Янка Чэрнякевіч з ПОМ у Нарве. Яны прымуць удзел у цэнтральным злёце польскай моладзі ў Лодзі, які адбудзецца ў ліпені г.г.




*Вынікі турніра падводзяць Янка Казлоўскі (ЗМВ) і Аляксей Рачкевіч (ПРН).*

У другой частцы Свята маладосці адбыўся турнір паміж грамадамі Арэшкава і Дубічы Царкоўныя. Прадстаўнікі і каманды гэтых грамадаў змагаліся ў такіх канкурэнцыях як перацягванне ліны, матч паміж жаночымі валейбольнымі камандамі, футбол, велагонка, пілаванне дрэва, конкурс супрацьпажарных каманд, конкурс вясковых асілкаў, конкурс на найлепшага возчыка і г.д. Пры ацэнцы вынікаў турніру прымаліся пад увагу і паказчыкі выканання грамадскіх чынаў, куплі мінеральных угнаенняў, а таксама выкананне народных песень і старынных вясковых абрадаў. Абедзве каманды паказалі сцэнкі з вясельных звычаяў і абрадаў. Па-за конкурсам у перарывах паміж паасобнымі канкурэнцыямі выступалі з сваёй праграмай вясковыя танцоры з Арэшкава Марыя і Уладзімір Кошэль, якія выканалі «каробушку» і «кракавяка», спявалі дзяўчаты з Грабаўца Зіна Петручук і Марыя Масальская, якія выконвалі беларускія песні. Турнірныя спаборніцтвы выйгралі гаспадары (24:22).

У далейшай частцы Свята маладосці выступалі харавы і танцавальны калектывы з Кляшчэляў, эстрадны калектыў з Дубінаў, а таксама моладзь з Сухавольцаў, якая выступіла з гумарыстычнымі сцэнкамі.

Свята маладосці ў Арэшкаве закончылася народным гуляннем, якое зацягнулася з вечара аж да белага рання. Амаль кожны прысутны знайшоў сабе тут нешта цікавае. Найбольш захапляючым быў менавіта турнір грамадаў. Быў ён праведзены вельмі спраўна.

*Тэкст і фота Я. Цялушэцкі*



*Перад стартам велагоншчыкаў.*



*Ліну цягнуць арэшкаўскія асілкі.*



*Сцэнка з рэгіянальнага абраду — убіранне маладой.*



*Мерапрыемства карысталася вялікім зацікаўленнем усіх гледачоў.*



*Спявае дуэт з Грабоўца: Зіна Петручук і Марыся Масальская.*



*Спаборнічаюць возчыкі.*

РЭПАРТАЖ З ВЁСКІ КУЗАВА

## СЛЕДАМ ЖЫЦЦЯ І СМЕРЦІ

Вясковы клуб «Руху», вясковая крама, ды вясковая пастарэлая царкоўка — вось цэнтр вёскі Кузава ў Гайнаўскім павеце, яе галоўная плошча, дзе кожнаму па яго запатрабаванню...

Мне аднак трэба да Марыі Саласцюк. Але ў Кузаве можна з завязанымі вачыма кінуць каменем, а войкне з болю менавіта Саласцюк. Дык іду ад аднаго Саласцюка да другога, а пры нагодзе стараюся адгадаць, як жывуць людзі ў гэтай вёсцы? Дамы пераважна драўляныя, аднак найчасцей пакрытыя чарапіцаю, азбестоўкай, а нават і бляхай. Дзе-нідзе, як ганарыстая дзяўчына, шырокімі вокнамі глядзіць на вуліцу мураванка. Кузавяне бяды, відаць, не ведаюць. Такое ў мяне першае ўражанне. Ці сапраўды яно так?

Ад станцыі Чарэмха, да якой з Кузава ледзь рукой падаць, далятаюць пранізлівыя гудкі паравозаў. Гэтая важная, вузлавая станцыя корміць не адну навакольную вёску. Таму не вельмі здзіўляюся, калі мне гавораць, што ў Кузаве няма такой сям'і, з якой нехта не пайшоў бы ў чыгуначнікі. Магчыма адтуль і гэтыя мураванкі, і бляха на дахах.

У шостым будынку за старэнькай царкоўкай, — гаварылі мне, — жыве Саласцюк.

За варотамі, абапершыся на дубінку, стаяла там згорбленая бабуля і змучанымі вачыма глядзела на мяне. Захацелася мне чым-колеч пацешыць яе.

— Дзень добры, вам бабулька! — прывітаўся я і запытаў: — Як жывем?

— От, жывем ды... гаруем... — сумна адказала яна.

— Гаруем? — паўтарыў я апошні яе сказ. — Чаму?

— А як не гараваці, калі чатырох сыноў нарадзіла, на руках вынасіла і... адна засталася, як той калок у полі...

— А сыны дзе?

— У зямельцы, у святой яны, у глыбокіх магілах... І бацька іх там... Дачка толькі засталася... У яе я цяпер на ласкавым хлебе...

Яе голас, бы шпількі, сваім набалелым тонам калоў мяне ў сэрца. Пражыла яна на гэтым свеце ўжо 88 гадоў. Першы раз смерць застукала ў яе дзверы ў 1940 годзе.

— Было гэта яшчэ пры «саветах», — апавядае Наталля Качук, бо менавіта так завецца гэтая старэнькая бабуля, — збіраліся мы на выбары дэпутатаў. Міхась, значыць мой муж, застаўся дома, бо хварэў на ныркі. «А глядзі, — наказваў ён мне, — не гуляй ты там доўга і на танцы не заставайся!» Не паспела я дайсці да Кляшчэляў, а ён ужо Богу душу аддаў.

Тады, у час гэтых выбараў у дэпутаты сельсавета выбралі яе першага сына — Пятра.

— Ён такім баявым, актывістам быў, — гаворыць бабулька. — Калі закончылася вайна, знайшліся такія, што не даравалі яму гэтай актыўнасці — наслалі на яго бандытаў. Не забуду я да смерці яго крыку — так білі яго, так знуткаваліся над ім. А калі ўжо ляжаў амаль непрытомны, дык адзін з іх гаворыць: «Забіць бы гэтую камуністычную свінню!» А другі яму адказвае: «Пакінь, хай бахуроў пагадуе!»

Такім чынам застаўся Пятро, каб гадаваць трое дзяцей і... адпомсціць за сваю крыўду. Стаў армоўцам, узяўся за зброю і пры наступнай сустрэчы з «ляснымі» не дапусціў іх да сябе, хаця атрымаў цяжкае раненне. На жаль, здароўе яму адбілі. Ён памёр, не дачакаўшыся 60 гадоў жыцця.

Працяг на стар. 4



 

НА СПАРТЫЎНАЙ НІВЕ

# • Спартсменкі •



Спартсменкі з Арэшкава

Дзяўчаты ў спартыўных касцюмах... Гэта ўсё яшчэ рэдкая карціна ў вёсках Гайнаўшчыны. Нам удалося сустрэць спартсменак з Арэшкава і Дубіч Царкоўных у час валейбольнага матча. Удзельнічалі ў ім: Галена Кошэль, Ірэна Сакоўская, Галена Сахарчук, Валя Бугвін і Ніна Герасімюк (каманда з Арэшкава) і Насця Бялявец, Бася Васілеўская, Зіна Петручук, Яня Твароўская, Вольга Тамашук і Насця Гіль (каманда з Дубіч Царкоўных). Матч выйгралі дзяўчаты з Арэшкава.

Варта дадаць, што дзяўчаты ўспамянутых каманд з'яўляюцца членамі ЛЗС. У іх вёсках ёсць спартыўныя пляцоўкі, валейбольныя сеткі і мячы. Найчасцей іграюць у сяткуўку. Рэдка калі адбываюцца матчы каманд хаця б з суседніх вёсак. У сувязі з тым неабходна, каб павятовае аб'яднанне ЛЗС у Гайнаўцы арганізавала больш такіх матчаў. Такое ёсць жаданне ўсіх тых дзяўчат, якім справа спорту і здароўя не з'яўляецца абыякавай. Вясковыя дзяўчаты хочуць таксама быць добрымі спартсменкамі.

*Тэкст і фота Я. Цялушэцкага*



Жаночая каманда з Дубічаў Царкоўных.

*(Пачатак на стар. 3)*

# СЛЕДАМ ЖЫЦЦЯ І СМЕРЦІ

Другі сын бабулькі Наталлі зваўся Хведар. У 1940 годзе пайшоў у Чырвоную Армію. Дома засталася маладая жонка, з якой пражыў ён усяго адзін тыдзень часу.

— Доўгі час не мела я ад яго аніякай вестачкі, — гаворыць бабулька. — Аж но зараз як нас саветы вызвалілі, прыходзіць пісьмо, што ён у польскай арміі, што ваяваў пад Леніна, а цяпер знаходзіцца пад Варшавай. О, каб вы ведалі, як я чакала заканчэння вайны!

Вайна закончылася, аднак Хведар Качук дамоў не вярнуўся. Два дні перад яе заканчэннем камандаванне аднатавала: «Загінуў без весці». І такое ж паведамленне атрымала маці.

Трэці сын — Іван — з выгляду быў здаравяка, мяшок жыта браў пад руку, як вязку сена. Сэрца аднак падвяло яго. Памёр на 41-ым годзе жыцця.

— Сядзелі мы за вячэрай, — успамінае бабулька, — гаварылі пра гаспадарскія справы. «Заўтра дроў трэба будзе насячы», — сказаў мой Ваня і раптам галава яго ўпала на стол, на міску з супам... Я да яго, а ён ужо непрытомны...

Мікалая — чацвертага сына бабулькі Наталлі — смяротна перапалохалі гітлераўцы.

— Стаяў ён у вёсцы на варце, — далей снуе сваю аповесць старэнькая маці. — Прыехалі немцы і загадалі завезці іх да таго, хто жане самагонку. Цэлую ноч мой Колька блытаўся з імі па вуліцы і не мог рашыцца, у якую хату зайсці. І ад гэтага перапалоху ён і памёр. А я засталася адна, хаця іх на руках вынасіла, з пялёнак... — зноў загаласіла старэнькая бабуля. Я пачакаў, каб яна крыху супакоілася, а пасля запытаў:

— А можа вы ведаеце Марыю Саласцюк?

— То ж то мая дачка, у якой я тут да смерці... Толькі няма яе дома...

Ад мужа Марыі, Яна Саласцюка, я даведаўся, што іх зямельныя справы, якія мяне цікавілі, ужо паспяхова вырашаны.

— Нядаўна давялося мне быць у павятовым камітэце партыі, — гаварыў селянін. Справу дапамаглі аформіць, бо рацыя была мая.

Ад яго я таксама даведаўся, што бабулька Наталля за сына, які загінуў на фронце, атрымоўвае 760 злотых месячнай пенсіі.

Ад гэтага павесялела крыху на душы. Я смялей паглядзеў на яркае чэрвеньскае сонца. І аблупленая з фарбы вясковая царкоўка не здалася мне ўжо так сумнай.

*Віктар Рудчык*



Наталля Качук.

*Пачатак на стар. 1*

# ПЕСНЯ ВЯРТАЕЦЦА Ў НАРОД

наў, пясчанымі выбоямі. Вёска нічым асаблівым не славіцца. Разбітыя на калоніі хаты, купінамі расселіся далёка адна ад другой. Некаторыя хаты стаяць пустыя ў летняй цішыні, вокны завешаны. Іхнія гаспадары пакінулі іх, паехалі ў свет шукаць чагосьці лепшага. Не выглядае на тое, каб вёска мела шырокія і аптымістычныя перспектывы.

Уладзімір Назарка жыве тут з жонкай і двума малымі дзяцьмі. Пра жонку яго Лілію нельга не ўспомніць. Яна з тых цудоўных людзей, якія прышэльцу дараць сваю цёплую ўсмешку і шчырасць.

У сасновым лесе за Валодзіным панадворкам не сціхаў жаваранак, а ён — гаспадар Назарка, сеўшы на табурэцік сярод двара, заспяваў і заіграў, на нашу супольную — маю і жончыну просьбу, адну са сваіх песень: «Цяжка, цяжка на сэрцы, як сонца заходзіць, што мой мілы чорнабрывы, да другае ходзіць...»

Чатырохгадовы Валодзін сын Мірэк, бачу, за бацькам, але толькі губамі, падспеўвае, голасу не чуваць. Малая дзяўчынка на каленях мацеры рытмічна падскаквае ў такт гармоніка. Дзесь з глыбі панадворка з зялёных кустоў паказаўся старычок — бацька, а з-за суседскага плоту чуем голас бабкі: «То зайграй, Валодзька, яшчэ што, а то толькі дзяцей ўзбунтаваў».

Валодзя Назарка з Ціванюкоў нагадвае даўняга трубадура, які з неадлучным сваім музычным інструментам вандраваў і спяваў любоўныя былі пад уквечанымі вокнамі каханых.

Валодзя Назарка таксама вандруе па вёсках і мястэчках, але вельмі ахвотна спявае ён старынныя беларускія песні, разліўныя, удумлівыя і сумныя. «Гэтыя песні людзі горача прымаюць», — кажа. Называе мясцовасці, куды ездзіў і дзе спяваў. Заехаў аж у Кляшчэлі.

Сяброў для сваіх песенных вандровак знайшоў у Семяноўцы — 15 кіламетраў ад Ціванюкоў. Там скамплектавалася група людзей — іграючых і спяваючых. Удзельнічаюць яны ў вясковых забавах і тут спяваюць тады песні, таксама і беларускія, пры якіх людзі танцуюць. Песня вяртаецца ў народ, сярод якога нарадзілася. А Валодзя Назарка, аўтэнтычны народны пясняр, садзейнічае гэтаму працэсу.

На маё здзіўленне, што аж у Семяноўцы знайшліся сябры, а не бліжэй, хоць бы ў Юшкавым Грудзе, Уладзімір Назарка найперш доўга хваліць тых людзей, з якімі працуе ў Семяноўцы: што здольныя, што добра іграюць, што дысцыплінаваныя і што добра было б асабіста паехаць і ўласнымі вачыма ўбачыць гэты семяноўскі калектыў. А потым гаворыць, што і ў Юшкавым Грудзе ёсць умовы і ёсць людзі для добрага калектыву, які мог бы працаваць на мясцовых народных песнях. Называе людзей, якія згодны спяваць: Люба Саковіч, Яўгенія Грыка, Ніна Саковіч, Зіна Саковіч, Галубоўскі — бацька Любы Саковіч.

А чаму ўсё ж такі няма калектыву ў Юшкавым Грудзе? «Прыдаўся б інструктар», — нясмела адказвае мой субяседнік. «А вы? — пытаю. — Вядзеце ж калектыў у Семяноўцы?» «Так, — кажа Уладзімір Назарка, — але ў гэтым выпадку прыдаўся б інструктар для мяне самога, хоць раз у месяц».

*Вера Леўчук*

*Фота Цаф — П. Савіцкі*

БЕЛАРУСКАЯ ЛІТАРАТУРА
АЛЯКСАНДР БАРШЧЭЎСКІ

# ПЕРЫЯД XIX СТАГОДДЗЯ

## ВІНЦУК ДУНІН-МАРЦІНКЕВІЧ. ЧАСТКА IV

У оперы «Сялянка» прымяняе Марцінкевіч казачны прыём аб перамозе дабра над злом. Канчаткова Лятальскі — франкаман пераконваецца, што ўсе яго ўпадабанні былі пазбаўлены сэнсу. У сэрцы яго выбухае патрыятычнае пачуццё. У эмацыянальнай дэкларацыі Лятальскі дзякуе Юліі і яе бацьку за тое, што яны навучылі яго кахаць родную прыроду і шанаваць мясцовы люд. Лятальскі цвёрда пастанаўляе застацца ў сваёй краіне і працаваць для эканамічнага і культурнага развіцця яе.

Ідэйнае і маральнае перараджэнне Лятальскага вельмі наіўнае, неперакануачае, пазбаўленае жыццёвай верагоднасці. Кніжнасць характэрная і для іншых герояў, выступаючых у творы. Прыкладам гэтай кніжнасці з'яўляецца постаць Юліі і яе бацькі Дабровіча, якія выразна ідэалізуюцца пісьменнікам. У творы выступае і «злы дух» — чорны характар аканом Выкрутач, які жорстка эксплуатуе сялян і які спрыяе непаразуменням паміж сялянамі і землеўласнікамі. Пісьменнік увесь свой гнеў кіруе не супраць Лятальскага, які ўсяго толькі нездысцыплінаваны, але высакародны юнак, а толькі супраць Выкрутача, які з'яўляецца прычынай сялянскіх няшчасцяў. Амаль кожны з выступаючых у «Сялянцы» персанажаў гэта чалавек з выразна акрэсленымі, пастаяннымі, статыстычнымі, рысамі характару. Амаль ва ўсіх выпадках маральныя ўласцівасці герояў акрэсліваюць іх прозвішчы. І так прозвішча Лятальскі падкрэслівае нясталасць характару героя, яго схільнасць да перамяшчэння з месца на месца. Прозвішча Дабровіч гэта сімвал дабраты і сардэчнасці. Шчырэцкі адзначаецца вялікай шчырасцю. Выкрутач — сімвал круцельства. Навум Прыгаворка, як з рукава сыпле прыказкамі і прымаўкамі.

Праблематыка «Сялянкі» даволі няпэўна звязана з рэчаіснасцю. Да найбольш верагодных персанажаў трэба аднесці Лятальскага. Адносіцца гэта асабліва да першай часткі твора, у якой Лятальскі паказаны, як касмапаліт. Рэальнымі рысамі надзелены персанаж Выкрутача, хаця не чужыя гэтаму персанажу моманты гіпербалікі.

Даволі адлеглы ад рэальнасці персанаж Наума Прыгаворкі, які меў у замысле аўтара прадстаўляць народ. Несумненна, Дунін-Марцінкевіч увасобіў у постаці Прыгаворкі некаторыя рысы беларуса. Кемлівасць, крытыцызм, дасціпнасць — усё гэта набліжае Прыгаворку да народа. Можам аднак гаварыць і аб штучнасці постаці Прыгаворкі. Выяўляецца яна ў тым, што Прыгаворка празмерна, часта без выразнай нагоды і патрэбы сыпле прыказкамі і прымаўкамі. Прыгаворка, несумненна, персанаж сцэнічны, сцэнічнасць гэтая часта шкодзіць жыццёвай аўтэнтычнасці.

Зрэшты, трэба памятаць, што жанр камічнай оперы, а такім творам з'яўляецца «Сялянка», павінен быць перш за ўсё сцэнічны, візуальны, дэкаратарскі, паказны. Усё гэта не можа не шкодзіць зместу. Форма твора і канчатковыя ідэйныя вывады — гэта галоўная мэта аўтара.

Аднак уся істота «Сялянкі», галоўная яе праблема і ідэя, якую хацеў выложыць аўтар, зусім не благія. Істота твора датычыць такіх важных спраў, як патрыятызм і касмапалітызм, сумленнасць і шахрайства, урэшце праблема праблем — народнае жыццё. Усе гэтыя вялікія праблемы вырашаны паверхнасна, без унікнення ў іх нутро, у іх істоту. Асабліва адносіцца гэта да народнага жыцця. Аўтар, несумненна, гаворыць, але толькі частку праўды аб гэтым жыцці. З некаторых фактаў, выказванняў і намёкаў вынікае адназначна, што народу жывецца цяжка. Але якія прычыны народнай нядолі? Паводле аўтара вінавата тут не феадальная сістэма, не землеўласнікі, а толькі паслугачы тыпу Выкрутача. Гэта яны сапхнулі сялян на дно нядолі. Гэта яны ашуквалі і народ і паноў. Калі б не яны, адносіны паміж народам і землеўласнікамі былі б дасканалымі, гарманійнымі і сардэчнымі. «Сялянка» сваім вастрыём накіравана супраць аканомаў, цівуноў, паслугачоў. «Сялянка» з'яўляецца формай апеляцыі да паноў. Аўтар прагнуў звярнуць іх увагу на прыгажосць уласнага краю, на дабрадушнасць і сумленнасць сялян, на эгаізм слоя пасрэднікаў.

І звярнуў. Верыў у паспяховасць такой апеляцыі. І таму ў канцы твора Лятальскі становіцца патрыётам і апекуном сялян, Выкрутач — сімвал зла пакараны, сяляне поўныя надзеяй аб лепшай будучыні. Усё гэтае аднекуль нам ужо вядомае. Адкуль? З казкі! У ёй заўсёды дабро перамагае зло. Нягледзячы на ўсе недахопы, «Сялянка» мае істотнае значэнне для беларускай літаратуры. Значэнне гэтае выяўляецца, між іншым, у тым, што «Сялянка» была першым прыкладам камедыйнай оперы і адным з першых твораў, у якіх постаць сялян паказана ў станоўчым асвятленні.

